# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА 16.08.12-22.08.12 г.


## САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАДУКТЫ



ДАРАЖЭЮЦЬ, АЛЕ НЕ З'ЯЎЛЯЮЦЦА

СТАР. 3

## САМАЯ ПРАВАЛЬНАЯ

БЕЛАРУСКАЯ АЛІМПІЯДА



СТАР. 7–8

# ЛУКАШЭНКА І АВАЦЫІ Ў БЕЛЫМ ДОМЕ

Нават звычайная сустрэча кіраўніка Беларусі з міністрам замежных спраў Расіі мела элементы сюррэалістычнай камедыі.




*І з Лаўровым кіраваць светам мы не будзем*

### ФАНТАСТЫЧНЫЯ НАМЕРЫ

Сяргей Лаўроў завітаў у Мінск з працоўным візітам і не абмінуў рэзідэнцыю Аляксандра Лукашэнкі. Часам суразмоўцы гаварылі нармальна, часам нібы трызнілі.

Так, Лаўроў паабяцаў, што Расія паспрые, "чтобы оценки парламентских выборов в Беларуси были объективными, непредвзятыми и не были предметом каких-то односторонних, кем-то выдуманных правил, которые пытаются навязать в ОБСЕ".

Улічваючы, што ўплыў Расіі на Арганізацыю па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе досыць сціплы, намеры міністра выглядаюць даволі фантастычнымі.

Акрамя жаданняў Лукашэнкі і Лаўрова, існуе аб'ектыўная рэальнасць, у якой 99% выбарчых камісій створана цалкам з людзей, падкантрольных уладам. Ужо аднаго гэтага факта дастаткова, каб АБСЕ не прызнала выбары ў Палату прадстаўнікоў свабоднымі і справядлівымі.

Наогул, у сённяшняй сітуацыі канфлікту з Еўрасаюзам кіраўніцтва Беларусі, здавалася б, менш за ўсё мусіць хвалявацца наконт меркавання Захаду адносна восеньскіх выбараў. Шансаў на тое, што яны будуць прызнаныя легітымнымі, ужо няма нават у тэорыі. Але ж Лукашэнка і яго памагатыямараць пра навязванне ЕС і ЗША свайго пункта гледжання на дэмакратыю, выбары, правы чалавека і г.д.

> "А як было б цудоўна, калі б кіраўніка місіі АБСЕ прызначаў сам Аляксандр Лукашэнка! Уявіце сабе, якое панавала б адзінства поглядаў на выбары ў Беларусі! Ніякіх рознагалоссяў паміж еўрапейскімі і эсэндэшнымі назіральнікамі! І адны, і другія сведчаць: "Трыумф дэмакратыі!"

Лукашэнка, у прыватнасці, не ўхваліў асобу кіраўніка назіральнікаў ад Парламенцкай асамблеі АБСЕ італьянскага дэпутата Матэа Мекачы: "Думаю, что могли бы найти более сведущего человека в части Беларуси и ситуации в Республике Беларусь. Мы внимательно сейчас изучаем все эти позиции и, конечно же, будем соответствующим образом реагировать".

### "НЯПРАВІЛЬНЫ" КІРАЎНІК АБСЕ

Па вялікім рахунку, адказаць на гэта можна было вельмі проста: "Думаем, что белорусский народ мог бы найти более сведущего человека для руководства страной, чем Лукашенко". Аднак у АБСЕ працуюцьлюдзітактоўныя (часам нават занадта), і таму яны абмежаваліся заявай, што менавіта Мекачы — той чалавек, які патрэбны, каб ачоліць місію назіральнікаў.

*Заканчэнне на стар. 3*

НАВІНА

## У РЭЗІДЭНЦЫІ ЛУКАШЭНКІ ЖЫВУЦЬ КАТЫ, САБАКІ, КАРОВА, КОЗЫ, ПТУШКІ

16 жніўня ў свеце адзначаецца Дзень абароны бяздомных жывёл. Як ставіцца да жывёл кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка і ці мае ў сваёй рэзідэнцыі братоў меншых? Ці ўласціва іншым кіраўнікам дзяржаў прывязанасць да жывёл?

Прэс-сакратар Аляксандра Лукашэнкі Павел Лёгкі: "Магу дакладна сказаць, што ёсць, безумоўна, ёсць. На тэрыторыі рэзідэнцыі — каты, наколькі мне вядома, сабакі. Лабрадор ёсць — пагранічнікі пару гадоў таму падарылі, калі мы наведвалі заставу на Гомельшчыне, аўчарка ёсць. І карова, і козы, і птушкі розныя: качкі, гусі, куры — шмат розных свойскіх жывёл. І ён сам пра гэта не раз публічна расказваў, пералічваў іх. Чалавек з вёскі, чалавек, які ведае, як трэба клапаціцца пра свойскіх жывёл, чалавек, у якога заўсёды былі жывёлы. І тут ён звычкам сваім не здраджвае".

**ГАЛІНА АБАКУНЧЫК**

# ЗА ШТО НА ПРАЗЕ ПАБІЛІ БЕЛАРУСАЎ?

На днях у Варшаве павінен быў адбыцца футбольны турнір на кубак Беларускага дома з удзелам каманд тэлеканала “Белсат”, “Еўрарадыё”, “Еўрапейскай Беларусі” і Беларускага інфармацыйнага дома. Але закончыўся матч грубым збіццём беларусаў польскімі хуліганамі. Чаму так адбылося, разбіралася “Тут і цяпер”.




Фанаты “Легіі”, якія збілі беларусаў, далёка не ўсе затрыманыя

**СЯРГЕЙ КОМЛАЧ, ЖУРНАЛІСТ:**

### “ГЭТА ТЫПОВАЯ ГОПНІЦКАЯ РАЗБОРКА”.

— Гэта была тыповая разборка з боку польскіх гопнікаў. Ім усё роўна, ці ты беларус, ці ты з іншага раёна Варшавы. Яны проста абаранялі сваю тэрыторыю. Як любыя дваровыя гопнікі любой краіны. Я не ведаю, наколькі гэта тыповыя паводзіны жыхароў варшаўскіх ускраін. Я першы раз быў на Празе. Ёсць устаноўка, што гэта самы небяспечны раён Варшавы. Там жыве шмат люмпенаў і гопнікаў. І абраць гэты раён для правядзення футбольнага турніру было дрэннай ідэяй. Такі быў выбар арганізатараў з Беларускага дома.

**АДАМ ГЛОБУС, ЛІТАРАТАР:**

### “НЕ ТРЭБА ПАДАВАЦЬ ГЭТЫ ІНЦЫДЭНТ ЯК ДВАРОВУЮ РАЗБОРКУ”.

— У мяне гэтая гісторыя не выклікала ніякага здзіўлення. Даўно чакалася нешта падобнае. Так палякі нас “любяць”. Гэта натуральна і прыкра — што людзей пабілі ні за што. Я сам сутыкнуўся з белым крымінálам у Осла. Гэты горад мяне здзівіў больш, чым зараз Варшава. Мяне папярэджвалі, што ў Осла тут нельга хадзіць, там нельга хадзіць. А я забыўся пра гэта. Белы горад. Ніякіх “бронксаў”. Ніякага цемнаскурага крыміналу. І я зразумеў, што колер скуры праваparушэнням не замінае. А з палякаў фанабэрыстасць заўсёды вылазіла. І ведаем мы англійскіх небяспечных фанатаў. У адной з самых цывілізаваных краін. Зараз галоўнае, калі прыедуць палякі, не даказваць, што мы яшчэ больш “крутыя”. І не трэба падаваць, што гэта разборка чыста дваровая, што ў ёй няма нацыянальнага моманту. Гэта глупства. Яны ж бачылі, што прыйшлі беларусы. І білі нас. І наша МЗС павінна выказаць сваё меркаванне на гэты конт. Гэта ж нашых грамадзян пабілі. Апазіцыйныя яны ці афіцыйныя. Што гэта мяняе?

**МІХАСЬ ЯНЧУК, ЖУРНАЛІСТ:**

### “ТРЭБА ВЕДАЦЬ ГЕАГРАФІЮ”.

— Я пятнаццаць гадоў пражыў у Варшаве. З іх гады тры з паловай на Празе. І хачу сказаць, што там ёсць месцы, куды пасля заходу сонца ўвогуле лепш не заходзіць. Думаю, што такія месцы ёсць у кожным горадзе, хапае іх і ў Мінску. У Варшаве найстрашнейшая вуліца — гэта вуліца Брэсцкая. Яны якраз і былі недалёка ад гэтай вуліцы. Але сутыкнуліся, на маю думку, з футбольнымі фанатамі варшаўскага клуба “Легія”, якія славяцца сваёй “інтэлігентнасцю”. Фактычна гэта банды. І нашы сустрэліся з такой вось бандай, якая гуляла ў футбол. Так што тут ніякіх ні палітычных, ні нацыянальных як першасных фактараў няма. Проста гэта не тыя людзі ў не ў тым месцы.

**ЗМІЦЕР НОВІКАЎ, ДЫРЭКТАР “ЭЎРАРАДЫЁ”:**

### “АДМАРОЗКАЎ ХАПАЕ ЎСЮДЫ”.

— Варшава не страшнейшая за Мінск. У палякаў менш праблем, у іх ёсць касцёл. Яны больш талерантныя і менш агрэсіўныя. Далей. У Польшчы дастатковая колькасць бандытаў і адмарозкаў. Як і ў любой краіне. Я лічу, што, калі паехаць у Нямеччыну, там іх будзе больш. Бо чым большая краіна, тым больш жорсткія ўмовы. Напрыклад, Украіна. Пра Расію ўвогуле маўчу. Там “малатнуць” так, што касцей не збярэш. З іншага боку, ёсць мясцовыя, якія ўсё жыццё ў тым раёне жывуць, на гэтым стадыёне тусуюцца. І сярод іх ёсць група адмарозкаў, якія прыкрываюцца фанацтвам “Легіі”. Дарослыя хуліганы. Гэта іх раён, гэта іх месца. Нашы там вырашылі пагуляць, а яны пачалі на іх “наязджаць”, пачалі правакаваць. Чаплялі жонку Бародкі, дзяцей яго і гэтак далей…

**АПЫТАННЕ РАБІЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

**ДА ВЕДАМА**

**На стадыёне гімназіі № 23 на варшаўскай вуліцы Тарнавецкай у адпаведнасці з афіцыйным дазволам кіраўніцтва навучальнай установы павінен быў пачацца матч. Аднак у гэты час стадыён быў заняты — дзве каманды мясцовых жыхароў гулялі ў футбол.**

**Нягледзячы на настойлівыя просьбы кіраўніцтва гімназіі, каманды адмаўляліся пакінуць поле. Пры гэтым палякі сталі пагражаць беларускім гульцам і балельшчыкам.**

**Гульцы “Белсата”, “Еўрарадыё”, “Еўрапейскай Беларусі” і Беларускага інфармацыйнага дома чакалі каля паўгадзіны, потым балельшчыкі сталі развешваць на агароджы стадыёна бел-чырвона-белыя сцягі, спадзеючыся, што вось-вось пачнецца матч на кубак Беларускага дома.**

**Аднак, убачыўшы беларускія сцягі, палякі сталі іх зрываць з агароджы. Пры гэтым у адрас тых, хто сабраўся сярод беларусаў (многія з іх прыйшлі з дзецьмі, было шмат дзяўчат і жанчын), сыпаліся брудныя абразы і пагрозы накшталт: «Зараз пад’едуць нашы сябры з бітамі і мы вас заб’ем».**

**Потым хуліганы перайшлі да дзеянняў — павалілі на зямлю і пачалі збіваць нагамі арганізатара турніру, судырэктара Беларускага дома Змітра Бародку, які прыйшоў на матч з двума маленькімі сынамі. Фотажурналіст charter97.org Іван Мяжуй спрабаваў здымаць напад на фотаапарат. У выніку яго таксама збілі, паваліўшы на зямлю, а затым забралі фотакамеру.**

# ЛУКАШЭНКА І АВАЦЫІ Ў БЕЛЫМ ДОМЕ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

Італьянец, дарэчы, прысутнічаў на "Плошчы" 19 снежня 2010 года. Таму пра тое, як адбываюцца выбары ў сучаснай Беларусі, ён ведае аж зашмат. Якраз гэта і незадавальняе афіцыйны Мінск.

А як было б цудоўна, калі б кіраўніка місіі АБСЕ прызначаў сам Аляксандр Лукашэнка! Уявіце сабе, якое панавала б адзінства поглядаў на выбары ў Беларусі! Ніякіх рознагалоссяў паміж еўрапейскімі і эсэндэшнымі назіральнікамі! І адны, і другія сведчаць: "Трыумф дэмакратыі!" І вось ужо Лідзія Ярмошына выпраўляецца ў турнэ па розных французах ды немеччынах, а потым і за акіян, каб падзяліцца сваім унікальным досведам арганізацыі выбарчых кампаній. І неўзабаве Лукашэнку сустракаюць авацыямі ў Белым доме…

Але ж гэта толькі сон у летні дзень. Трэба вяртацца да рэчаіснасці, у якой усё выглядае значна менш прывабна. Гледзячы на настрої ў грамадстве, гэтым разам уладам давядзецца прыкласці беспрэцэдэнтныя намаганні, каб забяспечыць яўку на выбары.

Натуральна, будзе ўжыты адміністратыўны рэсурс: усіх, каго можна і каго нельга, заганяць на ўчасткі. Ды й прыпіскі ніхто не скасоўваў ні ў сельскай гаспадарцы, ні ў выбарчай.Аднак гэта не адменіць абсалютна скептычнага стаўлення народа да сваіх "абраннікаў". Аўтарытэт такой улады паступова ніякавее нават у перыяд адноснай "стабільнасці".Пакуль крытычная маса проста назапашваецца, аднак калі-нікалі могуць выбухнуць і наступствы…

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# КАЛІ ДАРАЖЭЭ ТО, ЧАГО НЯМА

**Цэны на «сацыяльныя» прадукты — малако, кефір, тварог і смятану — выраслі. Але ў продажы іх як не было, так і не будзе.**


*Танныя малочныя прадукты адышлі ў вечнасць*

На днях Міністэрства эканомікі падпісала чарговую пастанову, згодна з якой цэны на малочныя прадукты нізкай тлустасці ў Беларусі павышаюцца на 35% у жніўні і яшчэ на 4% — у верасні. Людзі пабеглі ў крамы, каб закупіцца кефірам і малаком і не плаціць за іх ужо заўтра на траціну больш.

Аднак дарма. Тыя малочныя прадукты, на якія падымаюцца кошты, усё адно ў крамах амаль што адсутнічаюць. Усё тлумачыцца проста: для вытворцаў яны нявыгадныя, і большасць адпаведных прадпрыемстваў адмовіліся выпускаць такія прадукты яшчэ ўзімку мінулага года. Міністр эканомікі Мікалай Снапкоў патлумачыў, што яны стратныя як для малаказаводаў, так і для гандлёвых сетак. Адпаведна, першыя ў большасці сваёй спынілі выпуск танных малочных прадуктаў, а другія перасталі падаваць заяўкі на іх набыццё.

Сёння «сацыяльнае» малако па рознічным кошце 2340 рублёў пастаўляецца толькі ва ўстановы адукацыі і медыцынскія ўстановы, і кропкава — у гандлёвую сетку. Аднак ніхто не ведае, дзе і ў якім аб'ёме «выплывуць» нізкатлустыя малочныя прадукты.

— Нам часам завозяць, але гэта хіба адна скрыня, якую адразу разбіраюць. Ды і людзі ўжо адвыклі ад «сацыяльнага» малака. Раней былі чэргі, сёння ўсе бяруць больш дарагое. Нічога не зробіш, — кажа прадавачка адной са сталічных крам.

Ці з'явяцца цяпер у продажы «сацыяльнае» малако па новым кошце 3150 рублёў ды іншыя «сацыяльныя» малочныя прадукты, невядома.

— Нам гэтае павышэнне нічога не дае, — кажа прадстаўніца аднаго з малочных заводаў. — Так, мы зможам зменшыць страты, але нават на нуль не выйдзем. Таму выпускам сацыяльнага малака мы, хутчэй за ўсё, займацца не будзем.

Сапраўды, разлічваць на тое, што танныя малочныя прадукты нават пасля 35-адсоткавага падаражання з'явяцца на прылаўках крам, не варта. Хіба што некаторыя заводы атрымаюць загад зверху пераключыцца з вытворчасці малака з дабаўкамі (напрыклад, з лактулозай) альбо павышанай тлустасці (а гэта ўжо 3,6%) на нятлустае (да 3,5%) і без дабавак малако ці адпаведныя смятану, кефір і тварог. Тады ўжо нікуды не дзенешся.

Але нават у гэтым выпадку няма гарантый, што «сацыяльныя» малочныя прадукты дойдуць да сваіх патэнцыяльных спажыўцоў. Як паказаў досвед канца мінулага года, такіх прадуктаў, нават калі іх шмат, хапае далёка не ўсім тым, хто мае ў іх патрэбу.

**МІХАЛ ВЯЗЫНСКІ**

# РАСТВОРАЦЦА РАСТВАРАЛЬНІКІ – РАСТВОРАЦЦА І ГРОШЫ

**Пытанне аб экспарце беларускіх растваральнікаў і разбаўляльнікаў выйшла на новы ўзровень. Расія шчыльна занялася гэтым пытаннем і мае намер скончыць гэту бясплатную для Беларусі справу.**




*Нафтапрацоўка можа быць такой смачнай…*

Прычым, як гаварылася ў гарбачоўскія часы, перабудову яны пачалі з сябе. Як паведамляе "РІА Новости", Урад Расіі прыцягнуў да аналізу сумніўнага экспарту растваральнікаў, разбаўляльнікаў і змазачных матэрыялаў з Беларусі, выробленых з расійскай "нафты" (субстанцыі для іх вытворчасці) спецыялістаў Следчага камітэта РФ, паколькі ў гэтых схемах удзельнічалі таксама расійскія кампаніі.

У канцы ліпеня міжведамасная расійская група з прадстаўнікоў профільных дзяржструктур пад кіраўніцтвам Федэральнай мытнай службы правярала легальнасць вытворчасці і экспарту растваральнікаў і разбаўляльнікаў з тэрыторыі Беларусі. Вынікам працы гэтай групы ўжо стала спыненне расійскімі нафтавымі кампаніямі паставак "нафты" ў Беларусь.

## ПЫТАННЕ НАСПЕЛА

Па даных Нацыянальнага статыстычнага камітэта, Беларусь у І паўгоддзі 2012 года экспартавала 2.870 млн тон растваральнікаў і складаных арганічных разбаўляльнікаў на суму $ 2.526 млрд. Практычна ўвесь аб'ём — 2.869 млн тон — быў пастаўлены ў краіны Еўрапейскага саюза.

Экспарт па выніках І паўгоддзя ў краіны ЕС склаў $11.554 млрд. Такім чынам, на растваральнікі і разбаўляльнікі выпадае 22% беларускага экспарту ў Еўропу, а ў агульным аб'ёме экспарту ($25.311 млрд) доля растваральнікаўразбаўляльнікаў складае 10%.

Расійскі бок вельмі доўга заплюшчваў вочы на тое, што Беларусь "хімічыць" з нафтапрадуктамі. Да таго часу, пакуль Сінявокая зусім не стала "нахабнай", Расія яе не чапала. У 2011 годзе за кошт бяспошлінных растваральнікаў-разбаўляльнікаў Беларусь атрымала 700 млн долараў. Але за першае паўгоддзе 2012 гэты прыбытак склаў ужо 2 млрд долараў, што нават для Расіі ўжо грошы.

Пасол РФ у Беларусі Аляксандр Сурыкаў 6 чэрвеня заявіў: "Мы разумеем, што Беларусь імпартуе больш, чым трэба для ўнутранага спажывання. Заўважылі, што ў справаздачнасці Мытнага саюза з'явіліся растваральнікі і разбаўляльнікі, якія не абкладаюцца пошлінамі. Рээкспартаваць можна, але, калі ласка, заплаціце пошліну".

18 ліпеня Прэм'ер-міністр Расіі Дзмітрый Мядзведзеў на прэс-канферэнцыі па выніках пасяджэння Савета міністраў Саюзнай дзяржавы заявіў, што калі ёсць парушэнні дамоўленасцей аб умовах паставак нафтапрадуктаў, то вінаватыя павінны панесці адказнасць.

Паведамленне аб тым, што ў краіну спыніліся пастаўкі "нафты", прымусіла задумацца аб наступствах.

## ЗНЕШНЕГАНДЛЁВЫ БАЛАНС — У МІНУС

Дзяржаўныя органы Беларусі з радасцю адрапартавалі аб тым, што за пяць месяцаў года станоўчае сальда гандлю таварамі і паслугамі перавысіла 3 млрд долараў пры гадавым прагнозе 1-1,5 млрд. Гэта сапраўды вялікія лічбы. І доля незаконных растваральнікаў і разбаўляльнікаў тут досыць вялікая.

Год таму знешнегандлёвы баланс быў галаўным болем урада і складаў мінус 2,5 млрд долараў.

Эканаміст Леанід Злотнікаў, аднак, цяперашнім аптымістычным лічбам урада не вельмі радуецца. Паводле яго слоў, бягучы рахунак гандлёвага балансу краіны (ён, акрамя знешнегандлёвага сальда, уключае сальда па даходах і сальда трансферту) вагаецца каля нуля. А тое, што мы нібыта столькі зарабілі, Злотнікаў называе ўдалым збегам акалічнасцей.

"Так ўдала для Беларусі супала, што выраслі не толькі аб'ёмы экспарту нафтапрадуктаў, але і цэны на іх, уключаючы растваральнікі-разбаўляльнікі. Гэта вельмі моцна ўплывае на сальда", — кажа эканаміст.

Ён звярнуў увагу, што з пачатку года на 24% упаў экспарт калійных угнаенняў — другая пасля нафтапрадуктаў пазіцыя беларускага экспарту. А ўгнаенні і нафтапрадукты — гэта каля 60% усяго экспарту краіны. Такім чынам, калі звышпрыбытковы экспарт растваральнікаў-разбаўляльнікаў Беларусі ўсё ж давядзецца спыніць, знешнегандлёвы баланс можа сысці ў глыбокі мінус.

## ЗА БАЛАНСАМ — ДЭВАЛЬВАЦЫЯ

Такое развіццё падзей здольна прывесці да таго, што на валютным рынку попыт на замежную валюту перавысіць прапанову. Аналітыкі лічаць, што ўжо ў верасні на падтрымку курса рубля пачнуць выдаткоўвацца рэзервы.

"Паляпшэнне сальда плацежнага балансу адбылося ў першым паўгоддзі за кошт гандлю мінеральнымі прадук-

тамі, якія фарміравалі львіную долю валютнай выручкі", — нагадвае аналітык Forex club у Беларусі Валерый Палхоўскі. У выпадку, працягвае ён, калі раставаральна-разбаўляльны бізнес будзе прыціснуты, існуе верагоднасць, што трэнд разгорнецца ў супрацьлеглы бок і ў плацежным балансе мы ўбачым дэфіцыт. "Такое развіццё падзей будзе аказваць ціск на курс беларускага рубля", — лічыць Палхоўскі.

Аналітык думае, што Нацбанк не будзе траціць значныя золатавалютныя рэзервы для падтрымання курса нацыянальнай валюты. "Мінулы год паказаў, што гэта няўдзячны занятак: можна і рэзервы распрадаць, і ўсё роўна прыйсці да неабходнасці правядзення дэвальвацыі", — адзначае Палхоўскі.

Таму, мяркуе ён, у выпадку ўзнікнення ўстойлівага дэфіцыту замежнай валюты з-за згортвання разбаўляльнага бізнесу будзе абрана меншае з горшага, а менавіта павольная дэвальвацыя.

## ШАНТАЖ

Зрэшты, як лічаць аналітыкі, дэвальвацыя можа і не быць павольнай — калі Расія звернецца ў суд за спагнаннем пошліны на нафту і за адзін раз "выпампуе" з Беларусі ўсе яе вясёлкавыя валютныя паказчыкі.

Аднак, як лічыць Злотнікаў, Масква пойдзе на іншы крок: "Расія наўрад ці будзе даваць ход гэтай справе. Не выключана, вядома, што растваральнікі-разбаўляльнікі ўрэшце будуць уведзены ў спіс тавараў, экспарт якіх абкладаецца вывазной пошлінай. Але гэтым усё і скончыцца", — прагназуе Злотнікаў.

На яго думку, патрабаваць ад Беларусі кампенсацыі Масква не будзе. "Хутчэй за ўсё, гэта стане яшчэ адным прадметам гандлю: калі вы нам не прадасце тое, што нас цікавіць, мы вам нагадаем аб нявыплачаных пошлінах. Расія зацікаўлена не столькі ў пошлінах, колькі ў шантажы імі", — мяркуе эканаміст.

Так што рана ці позна за сумніўны бізнес прыйдзецца плаціць. Справа з растваральнікамі заканчваецца, і трэба будзе шукаць новыя крыніцы даходу для беларускага бюджэту.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

# КАПСУЛА ШЧАСЦЯ

**Адпраўленне "лістоў шчасця" у будучыню сталася новай традыцыяй беларускай улады. Пасланне нашчадкам пакідаюць чыноўнікі рознага ўзроўню з амаль любой нагоды. Гэтая традыцыя стала ўвайшла ў палітычнае жыццё з падачы Аляксандра Лукашэнкі.**




*Жадаючых ехаць у Астравец можа хутка паменець*

Апошнім разам Лукашэнка заклаў капсулу з пасланнем нашчадкам на пляцоўцы будаўніцтва АЭС 9 жніўня. У пасланні за подпісам Лукашэнкі гаворыцца, што "стварэнне нацыянальнай ядзернай энергетыкі — значны крок ва ўмацаванні энергетычнай бяспекі краіны, магутны стымул паскарэння навукова-тэхнічнага прагрэсу і інавацыйнага развіцця". "Увасабляючы ў жыццё дэвіз аб пабудове моцнай і квітнеючай Беларусі — дзяржавы для народа, мы пачынаем рэалізацыю найбуйнейшага сумеснага з братэрскай Расіяй інвестыцыйнага праекта — будаўніцтва першай атамнай электрастанцыі на нашай тэрыторыі", — напісаў Лукашэнка.

## КАПСУЛЯЦЫЯ ЎЛАДЫ

Канешне, добра, каб нашчадкі даведаліся, што і для чаго мы рабілі. Але часам капсулы закладаюцца да месца і не да месца. Калі ж паглядзець на гэтыя капсулы, часта не разумееш — навошта?

Пачалося ўсё з таго, што яшчэ малады прэзідэнт умураваў такую капсулу ў Чарнобыльскую капліцу, што зараз пабудавана ля плошчы Бангалор. Потым — пайшло-паехала.

24 красавіка гэтага года Аляксандр Лукашэнка ўзяў удзел у рэспубліканскім суботніку, падчас якога заклаў капсулу з пасланнем нашчадкам у гранітны элемент — сімвалічны падмурак новага будынку Дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. "Адкрыты літаральна праз тры месяцы пасля вызвалення Мінску ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Беларускі дзяржаўны музей гісторыі Вялікай Айчыннай вайны стаў першай у свеце культурна-асветніцкай і навуковай установай, чыёй асноўнай задачай з'яўляецца захаванне гістарычнай праўды пра вайну і тых людзей, якім мы абавязаны жыццём, — адзначаецца ў тэксце паслання нашчадкам. — Музей расказвае пра ратны подзвіг беларусаў і брацкіх народаў Савецкага Саюза, выхоўвае моладзь у духу воінскай доблесці і вернасці абавязку".

Можна падумаць, нашчадкі не здагадаюцца, для чаго пабудаваны музей.

У кастрычніку 2010 года старшыня Віцебскага аблвыканкама Аляксандр Косінец падчас працоўнай паездкі па будоўлях горада заклаў сімвалічную капсулу на месцы будучага паліклінічнага цэнтра, які будзе збудаваны ў новым мікрараёне Віцебска Білёва-2.

Цікава, ці разбураць нашчадкі бальніцу, каб прачытаць, што ж ім пажадаў Косінец? Застаецца спадзявацца, што яны будуць больш мудрыя, чым губернатар.

29 жніўня 2011 года на сталічнай плошчы Незалежнасці каля Чырвонага касцёла прайшла закладка капсулы з зямлёй, узятай на тэрыторыі былога Сяміпалацінскага ядзернага палігона ў Казахстане, у аснову мемарыяла "Звон Нагасакі". Капсула закладзена па ініцыятыве казахскага боку як напамін аб тым, што былы Сяміпалацінскі палігон з'яўляецца самым заражаным месцам у свеце адкрытымі радыеактыўнымі ядзернымі выбухамі.

Ні фіга сабе пасланне нашчадкам! Яшчэ пад тысячу гадоў яны будуць вельмі ўдзячныя за радыёактыўную пляму ў цэнтры Мінска, якую трэба будзе абыходзіць з лічыльнікам Гейгера.

## ШТО ГЭТА БЫЛО

Такім чынам, закладка капсул пад будынак АЭС не мае сэнсу. Дапускаючы, што АЭС пабудуюць за 10 год, і 40 год — сярэдні тэрмін яе працы. Такім чынам, капсулу будуць вымаць нашчадкі, якія ўжо зараз ведаюць, што тут адбывалася.

Больш сумленны тэкст прапанавалі для капсулы беларускія эколагі. Беларуская партыя "Зялёныя" і грамадскае аб'яднанне "Экадом" прапанавалі будаўнікам і замоўцам Астравецкай АЭС прызнацца ў тым, што яны былі праінфармаваны аб усіх наступствах уздзеяння гэтага аб'екта на навакольнае асяроддзе, здароўе грамадзян, эканоміку краіны, а таксама ў тым, што яны свядома перакладаюць цяжар праблем, звязаных са станцыяй, на наступныя пакаленні беларусаў.

"Мы пачалі гэтую будоўлю, дакладна разумеючы, што ў нас няма ні сродкаў, ні тэхналогій для ўтылізацыі Астравецкай атамнай электрастанцыі, захоўвання і ізаляцыі ад навакольнага асяроддзя на працягу 240 тыс. гадоў яе адпрацаванага ядзернага паліва, — гаворыцца ў альтэрнатыўным пасланні. — Мы разумелі, што вам аддаваць 10-мільярдны крэдыт, які мы ўзялі для будаўніцтва гэтай электрастанцыі. Кожны грамадзянін Беларусі — наш сучаснік ужо быў вінаваты 1000 долараў ЗША Расіі за гэтую АЭС. Мы ведалі таксама і аб тым, што вам запатрабуецца шмат сродкаў на лячэнне хворых, якіх стане больш дзякуючы гэтай АЭС".

"Мы ведалі аб тым, што вы не будзеце адчуваць недахопу ў электраэнергіі і без гэтай небяспечнай крыніцы. Мы прыдумалі гэтую хлуслівую падставу, як і парадаксальную мэту — павышэнне энерганезалежнасці нашай краіны за кошт расійскай АЭС. На самой жа справе нам патрэбны былі грошы і ўлада. І для дасягнення гэтых мэтаў мы не хацелі адмовіцца ні ад чаго" – сцвярджаюць "зялёныя".

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

# ЦІ БУДУЦЬ АПАЗІЦЫЯНЕРЫ ПРАЦІРАЦЬ ШТАНЫ Ў ВЫБАРКАМАХ



*Мізэрныя шансы змяніць звыклы сцэнар цяперашніх выбараў*

**Пасля фарміравання акруговых і ўчастковых камісій беларускія апазіцыйныя структуры запалі ў шок.**

## ЗА БОРТАМ

Яны ведалі, што няшмат хто патрапіць у камісіі ад іх структур, але такога мізэрнага выніку не чакалі. Што тычыцца ўчастковых камісій, то доля прадстаўнікоў апазіцыйных партый сёння складае каля 0,1 % (61 чалавек з 68945). Яны прадстаўлены менш, чым у 1% камісій. Гэта фактычна выключае апанентаў улады з арганізацыі галасавання і падліку галасоў і такім чынам пазбаўляе магчымасці ўплываць на працу УВК.

Некаторыя апазіцыйныя партыі, напрыклад АГП, заявілі, што ў знак пратэсту могуць адклікаць сваіх прадстаўнікоў з выбарчых камісіяў. Яны лічаць, што раз немагчыма паўплываць на кантроль за падлікам галасоў, то няма чаго там праціраць штаны.

Але ці падлік галасоў і назіранне за ім адзінае, што можа зрабіць сябра камісіі?

## ГАРАНТЫІ – ПАКУЛЬ ТОЛЬКІ МАРА

“Не”, — адказвае адзін з каардынатараў кампаніі партыйнага назірання “За свабодныя выбары” Віктар Карняенка.

Па-першае, ён нагадвае, што прапановы апазіцыі па ўмовах правядзення свабодных выбараў “абсалютна канструктыўныя і вельмі простыя”. “Першае — сапраўдны падлік галасоў, хоць бы на ўзроўні членаў камісій. Другое — правы назіральнікаў. Інакш гэта атрымліваюцца не выбары, а клаўнада, калі назіральнік стаіць за 10 метраў ад стала, на якім лічацца бюлетэні, і ўвесь працэс падліку закрываецца магутнымі спінамі членаў камісіі. І трэцяе — гэта не проста магчымасць, а гарантыі ўдзелу апазіцыі ў выбарчых камісіях”, — кажа Карняенка.

З трэцім пытаннем беларуская апазіцыя ўжо праляцела.

Але, паводле Карняенкі, гэта не азначае, што немагчыма паспрабаваць вырашыць першыя два.

“Мы прапаноўвалі проста прыняць адпаведныя пастановы Цэнтральнай выбарчай камісіі, пастановы акруговых і ўчастковых выбарчых камісій, якія прадугледжвалі, па меншай меры, першыя два пункты. Такія пастановы можа прыняць сама ўчастковая камісія. Пасадзіць за стол назіральніка і паказаць яму, як лічаць галасы”, — сказаў Карняенка.

Ён лічыць, што нават проста прапановай аб прыняцці такой пастановы акруговай або ўчастковай выбарчай камісіі можна дэмакратызаваць працэдуру выбараў і зрабіць яе больш празрыстай. “Калі камісія такую пастанову не прымае, значыць, не хоча сумленна лічыць галасы і не будзе лічыць іх сумленна”, — адзначае Карняенка.

Але пакуль аб падобных ініцыятывах ад апазіцыі ў акруговых выбарчых камісіях не чуваць. Прадстаўнікі палітычных партый займаюць пазіцыю не членаў акруговых камісій, а назіральнікаў у гэтых камісіях. Вядома, наўрад ці аднаму з 13 членаў камісіі ўдасца пераканаць астатніх 12. Але паспрабаваць можна?

“Можна і трэба”, — кажа адзін з сяброў акруговай камісіі па Жодзінскай выбарчай акрузе № 64 Аляксандр Валчанін. “Усё тут залежыць ад стаўлення мясцовых улад. Калі казаць пра нашу акругу, то ў нас нават пастановы такой прымаць не трэба. Я размаўляў з назіральнікам ад АГП у Салігорску — там яму не далі нават інфармацыі, хто падаў дакументы на рэгістрацыю. У нас такое немагчыма. Дзесьці на пасяджэнні камісіі не пускаюць назіральнікаў — у нас на кожным пасяджэнні прыходзь хто хоча, рабі што хочаш. Магу нават любога журналіста запрасіць — прыязджайце, паглядзіце, як мы працуем”, — кажа Валчанін.

“На мінулых выбарах кожны мог памацаць бюлетэні, сфатаграфаваць усё што хоча. То бок, у нас такой праблемы не існуе”, — заявіў Валчанін.

## ПАТРЭБНА ЎСЯГО АДНА ПАСТАНОВА

А вось член акруговай камісіі па 98 Грушаўскай акрузе Мінска Сяргей Вазняк чамусьці ўпэўнены, што камісія падобную пастанову “пракаціць”. “Безумоўна, я паспрабую вынесці праект такой пастановы. Але там я адзін прадстаўляю дэмакратычныя сілы, якія зацікаўлены ў правядзенні сумленных выбараў. Астатніх 12 — з праўладных арганізацый і партый”, — тлумачыць Вазняк.

“Тут важна не тое, каб назіральнікі бачылі падлік галасоў, а каб члены камісій лічылі ўсе бюлетэні. Са шматгадовай практыкі: у нас яны падзяляюцца на маленькія кучкі, і кожны член камісіі лічыць толькі сваю кучку. Нават калі я падлічыў 300 бюлетэней, не ведаю выніку ў цэлым па ўчастку. Такім чынам, нават сябры камісій не ведаюць вынік галасавання”, — сказаў Вазняк.

“Была б толькі добрая воля ўсёй камісіі на такі падлік, каб кожны бюлетэнь паказваўся не толькі назіральнікам, а ўсім членам камісіі. Але пакуль што такой волі няма і, пэўна, наўрад ці будзе”, — уздыхае Вазняк.

Такім чынам, забяспечыць сумленны падлік галасоў можна, але для гэтага трэба добра папрацаваць і пераканаць камісіі прыняць усяго толькі адпаведную пастанову. Пакуль у апазіцыі яшчэ ёсць час вярнуцца да ранейшых арыенціраў і, як казалі ў савецкія часы, “здзейсніць подзвіг на працоўным месцы”. Гэта значыць, пачаць адстойваць сваю пазіцыю па пытанні выбараў і допуску да падліку галасоў не толькі назіральнікаў, але і саміх сябе ў акруговых і ўчастковых выбарчых камісіях.

**СЯРГЕЙ КОЎШ**

**ДАРЭЧЫ**

**Аказваецца, членам акруговых выбаркамаў плацяцца за працу ў іх нейкія грошы. Напрыклад, брэсцкі актывіст АГП Сяргей Вельгас пераваў атрыманыя за працу ў акруговай камісіі грошы на рахунак, прызначаны для лячэння хворага двухгадовага хлопчыка.**

# САМАЯ ПРАВАЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ АЛІМПІЯДА

## Хто вінаваты ў тым, што гэтая Алімпіяда стала для Беларусі самай правальнай за апошнія гады? Ці была хоць нейкая карысць ад амаль двух дзясяткаў чыноўнікаў усіх масцей, якія прыехалі ў Лондан?

Вынікі Алімпіяды **"Тут і цяпер"** падводзіць з былым міністрам спорту, а цяпер кіраўніком Беларускай федэрацыі веславання **Аляксандрам Грыгаравым**. Гутарка вялася яшчэ да таго, як Надзею Астапчук пазбавілі залатога медаля за станоўчыя допінг-пробы.

**— Аляксандр Уладзіміравіч, гэтую Алімпійскія гульні называюць самай правальнай за апошнія гады. Згодныя?**

— На самай справе, тая задача, якую ставіў кіраўнік дзяржавы, — 25 медалёў і з іх пяць залатых — была першапачаткова праблематычнай для выканання. На мой погляд, не зусім рацыянальна распарадзілася наша цяперашняе спартыўнае кіраўніцтва тым запасам спартсменаў, які быў сабраны пасля Пекіна. Тады ў нас было 28 спартсменаў, якія заваявалі медалі, і 40 спартсменаў, якія занялі з 4 па 8 месцы. Гэта значыць, усяго 68 спартсменаў, якія, будзем казаць, павінны былі быць у рэзерве галоўнага камандавання спортам. Але, на жаль, у гэтым годзе новых імёнаў у Лондане не з'явілася...

**— Нават тыя, хто не асабліва цікавяцца спортам, заўважылі, што на гэты раз у нас неяк ужо вельмі шмат аказалася траўмаваных спартсменаў. Здавалася б, іх яшчэ за паўгода да Алімпіяды трэба было берагчы як зрэнку вока, парушынкі з іх здзімаць. Ці я не маю рацыю?**

— Разумееце, якая штука... Спорт высокіх дасягненняў заўсёды на мяжы чалавечых магчымасцей. Таму павінен быць узмоцнены кантроль за кожным спартсменам. Узяць, напрыклад, Кацярыну Карстэн. Ну, вы разумееце, што тут трэба разбірацца: проста так рэбры не ламаюцца, я ўжо казаў пра гэта; усяму павінна быць нейкае тлумачэнне. Я ўжо на 20 жніўня выклікаў і спартсменку да сябе, і яе трэнера. Зразумела, што ў Кацярыны ўжо не юны ўзрост, мяне абрынуліся абсалютна ўсе! Але разумееце, на маладога хлопца звалілася такая слава і матэрыяльныя выгоды — ён жа і кватэру трохпакаёвую ў Мінску атрымаў, і грошы адпаведныя. Але, як кажуць, лёгка прайсці агонь і ваду, а вось праз медныя трубы — не ўсім удаецца...




> “Я, дапусцім, да гэтага часу не згодны, што Андрэю Краўчанку далі працаваць з расійскімі трэнерамі. Яны перш за ўсё на сябе працуюць, а не на беларуса. У выніку, Краўчанка напярэдадні Алімпіяды паехаў займацца сваім ахілам”.

хоць у акадэмічным веславанні 40 гадоў — гэта не такая ўжо і крытычная мяжа. Калі б гаворка ішла пра мастацкую гімнастыку, то так, пытанняў бы ніякіх не ўзнікла.

Што тычыцца Андрэя Арамнава, то мяне, напрыклад, прэса вельмі моцна крытыкавала, калі я зняў з яго ў свой час прэзідэнцкую стыпендыю. На

Я лічу, ні ў якім выпадку не трэба ісці на павадку ў спарстмена. А тут гэтая пастаянная цяжба паміж трэнерам Ганчаровым і ім — гэта не на карысць ні спартсмену як чалавеку, ні ўсёй сістэме. Мы ўжо не раз праходзілі: калі спартсмен пачынае кіраваць трэнерам альбо пасля сур'ёзнага дасягнення сыходзіць ад яго, то гэта заўсёды прыводзіць у нікуды. І тут так. На мой погляд, Арамнава, як і іншых спартсменаў, трэба было жорстка кантраляваць — кожнае выступленне, кожны трэніровачны дзень.

Разумееце, высокія чыноўнікі ад спорту павінны весці пастаянную работу з людзьмі. Я, дапусцім, да гэтага часу не згодны, што Андрэю Краўчанку далі працаваць з расійскімі трэнерамі. Яны перш за ўсё на сябе працуюць, а не на беларуса. У выніку, Краўчанка напярэдадні Алімпіяды паехаў займацца сваім ахілам. Не павінна быць такога!

Былі выпадкі, калі спартсмены сыходзілі ад трэнераў да братоў ці мужоў, і на гэтым іх кар'ера заканчвалася. У аснове ўсяго ляжаць грошы. І многія думаюць, што ў такім выпадку ўсе грошы пойдуць у сям'ю, не трэба будзе ні з кім дзяліцца. А ў выніку нічога не атрымліваецца.

На жаль, міністэрства па частцы спорту ў нас было вельмі аслаблена. Быў выдатны намеснік міністра Дзмітрый Якаўлевіч Шычко. Ён заслужаны трэнер, прайшоў усе прыступкі, ведае, што да чаго. Шэвель Дзмітрый Аляксандравіч, старшыня дырэктарата — таксама ўсе Аалімпіяды прайшоў. Бабец Мікалай Якаўлевіч, начальнік упраўлення спорту: на ім у міністэрстве ўсё было завязана — і заканадаўчая база, і нарматыўная. На мой погляд, гэта адзін з наймацнейшых спецыялістаў у СНД. Але, на жаль, не палічылі патрэбным выкарыстаць гэтых людзей у алімпійскім цыкле. Я лічу гэта вялікай памылкай. Калі сыходзіў з пасады міністра, прасіў Алега Леанідавіча Качана прыглеклзецца да людзей, гадпаўтара не чапаць іх, а тут усё – раз, і пасыпалася!

**— Калі ўжо загаварылі аб чыноўніках, то не ці занадта шмат іх “дэсантыравалася” ў Лондане? Мне распавядалі, што за пару дзён да прыезду таго ж Цяцерына па кутах пыл пачыналі выціраць — як жа, намеснік галоўнакамандуючага па спорце едзе!**

— Лёс склаўся так, што з 1996 года я меў дачыненне да Алімпійскіх гульняў у розных якасцях — намесніка міністра, міністра, шэфа місіі і гэтак далей. Хачу сказаць, што столькі адміністрацыйнага апарату на алімпійскіх гульнях яшчэ ніколі не было засяроджана!

Гэта ўпершыню, каб усё міністэрства, увесь НАК, віцэ-прэм'ер, ды каго там толькі не было! Па-мойму, амаль 20 чалавек.

*Заканчэнне на стар. 8*

# САМАЯ ПРАВАЛЬНАЯ БЕЛАРУСКАЯ АЛІМПІЯДА

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 7*

**— Тая ж Кацярына Карстэн ды і іншыя знакамітыя спартсмены ў Лондане выказвалі заклапочанасць тым, што ім няма годнай змены. На самай справе ўсё так крытычна?**

— Я вам казаў, якая база была пасля Пекіна. Тое ж самае і цяпер, трэба толькі правільна расставіць акцэнты пры падрыхтоўцы спартсменаў; правільна зрабіць фінансавую, арганізацыйную канцэнтрацыю на тых відах спорту, якія даюць добры вынік.

**— Можа, я памыляюся, але мне здаецца, што цяперашні міністр спорту не справіцца з гэтым. Наогул, многія адзначаюць, што цяперашняе кіраўніцтва Мінспорту самае няўдалае за апошнія гады.**

— Я не хацеў бы абмяркоўваць гэтую далікатную тэму. Вы мяне правільна зразумейце...



*Вось і пайшоў ад нас залаты медаль Астапчук*

**— Добра. А наконт карупцыі тады што скажаце? Прэзідэнт днямі зноў заявіў, што спорт — даволі карумпаваная галіна...**

— Думаю, прэзідэнт НАК меў на ўвазе перш за ўсё нейкія дзеянні ў міжнародных структурах. І ў гэтым сэнсе ён мае рацыю. У лёгкай атлетыцы, стральбе спартсмена не засудзяць — там вынік бачны як на далоні. А вось у тых відах спорту, дзе ажыццяўляецца візуальная ацэнка дзеянняў спартсмена (бокс, барба, гімнастыка), гэты момант прысутнічае. А што тычыцца карумпаванасці спорту ўнутры нашай краіны, то я такіх момантаў не ведаю.

**— А вось перад Алімпіядай якраз здарыўся скандал з арыштам Бадуева...**

— Пытанне з трэнерам па лёгкай атлетыцы трэба падзяліць на два складнікі. Калі ён на самай справе скраў, то, натуральна, за гэта трэба прыцягваць да адказнасці. А калі ён нейкія падарункі рабіў, то гэта ж ён у інтарэсах дзяржавы, краіны дзейнічаў...

**— Аляксандр Уладзіміравіч, калі падводзіць вынікі, то якія высновы з гэтай алімпіяды нам трэба зрабіць на будучыню?**

— Самае галоўнае, каб усімі працэсамі — зверху да нізу — кіравалі прафесіяналы. Мінулі тыя часы, калі матрос Жалязняк кіраваў банкаўскай сістэмай... І, паміж намі кажучы, мы ведаем, да чаго такое кіраўніцтва прыводзіць — праходзілі ўжо.

Павінна быць распрацавана стратэгія і тактыка развіцця спорту, кожнага выступлення, павінна быць глыбокае веданне і спартсмена, і трэнера; персанальнае куратарства тых, хто ідзе на медалі. Тады будзе толк...

**МАРЫНА МІТ**

**ПАРАЎНАЕМ**

## МЕДАЛЬНЫ РАСКЛАД

| Год і месца, дзе праходзіла алімпіяда | Хто быў міністрам спорту | Усяго медалёў | З іх залатых |
|---|---|---|---|
| **1996 год**, Атланта | Уладзімір Рыжанкоў | 15 | 1 |
| **2000 год**, Сіднэй | Яўген Ворсін | 17 | 3 |
| **2004 год**, Афіны | Юрый Сівакоў | 15 | 2 |
| **2008 год**, Пекін | Аляксандр Грыгараў | 19 | 4 |
| **2012 год**, Лондан | Алег Качан | 12 | 2 |



**Заснавальнік** ТАА "Тут і цяпер" **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактор** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 22:45 16.08.12
Тыраж 299 экзэмпляраў